Шесть сирот при живых родителях стр.2

Куды зніклі скульптуры з касцёла Св. Андрэя? стр.3

Фотаконкурс "Усмешка" стр.7


# Газета Слонімская

Газета заснавана ў 1938 годзе. Адноўлена ў 1997 годзе.

№ 7 (140). 10 — 16 лютага 2000г. Незалежны грамадска-палітычны штотыднёвік Кошт 60 руб.




фотомиг

# ЧЕЛОВЕК В ТОЛПЕ

Фота IREX/ProMedia

навіны

## Цены растут со скоростью света

**1 февраля в Беларуси на 30 процентов выросли тарифы на электроэнергию для населения.**

Стоимость одного киловатт-часа электроэнергии для населения городов, проживающего в домах с газовыми плитами, увеличена с 1 рубля 40 копеек до 1 рубля 80 копеек, для населения городов, проживающего в домах с электроплитами, а также для жителей сельской местности, — с 1 рубля до 1 рубля 30 копеек.

Предыдущее повышение тарифов (на 18 процентов) произошло 1 декабря 1999 года.

**БелаПАН**

## Быков будет жить в Германии

**Известный белорусский писатель Василь Быков вновь покинул Беларусь.**

По некоторым сведениям, он проведет в Германии, куда писателя пригласил ПЭН-центр этой страны, по меньшей мере, ближайший год.

Напомним, что последние два года Василь Быков жил и работал в Финляндии. Писатель, как известно, критикует политику нынешних белорусских властей и активно поддерживает представителей политической оппозиции.

**БелаПАН**

## Пратэст супраць росту цэнаў

**Слонімскія сябры БНФ "Адраджэнне" сумесна з мясцовымі незалежнымі прафсаюзамі падалі заяўку ў гарвыканкам на правядзенне пікета "супраць штодзённага росту цэнаў і пагаршэння жыцця".**

Калі ініцыятары атрымаюць дазвол уладаў на гэтае мерапрыемства, пікет адбудзецца ў нядзелю, 13 лютага, з 10 да 12 гадзін на Першамайскай вуліцы (каля танка).

**Сяргей ЁРШ**

здарэнні

## Пажар ад грэлкі

**У Слоніме на завулку Калініна загарэўся дом.**

Па словах пажарных, гаспадыня, 78-гадовая жанчына, каб сэканоміць сродкі на ацяпленні памяшкання, выключыла газавы кацёл і легла спаць з уключанай электрагрэлкай. Праз некаторы час адбылося кароткае замыканне. У выніку жанчына атрымала моцныя апёкі і была дастаўлена ў бальніцу. Пажарным удалося выратаваць дом.

## Пад коламі пацярпелі мужчына...

**На мінулым тыдні каля вёскі Паўлава на аўтатрасе Ліда-Слонім пад коламі грузавіка загінуў мясцовы 34-гадовы жыхар.**

Следства правярае версію вадзіцеля, які заявіў, што пацярпеўшы ішоў пасярэдзіне дарогі і абʼехаць яго не ўдалося.

## ...і жанчына

**Вечарам 4 лютага на дарозе Баранавічы-Гродна непадалёку ад вёскі Чамяры Слонімскага раёна вадзіцель з Гродна наехаў на 39-гадовую жыхарку вёскі Сынковічы Зэльвенскага раёна.**

Жанчына са шматлікімі калецтвамі была дастаўлена ў Слонімскую раённую бальніцу. Па папярэдніх дадзеных яна знаходзілася ў нецвярозым стане.

**Валянцін ЧУРЫЛА**

навіны

## ЖЭСы стануць самастойнымі

**З 1 красавіка жыллёва-эксплуатацыйныя службы Беларусі атрымаюць гаспадарчую самастойнасць.**

Па словах намесніка дырэктара вытворчага абʼяднання жыллёва-камунальнай гаспадаркі слонімскага гарвыканкама Ніны Ганчарык, жыллёва-эксплуатацыйныя службы будуць пераведзены на самастойны баланс з правам юрыдычнай асобы. Гэта значыць, што ЖЭСы займеюць уласныя рахункі, на якія будуць паступаць сродкі за аплату насельніцтвам кватрплаты, тэхнічнага абслугоўвання, а таксама датацыі з гарвыканкама. Раней гэтыя сродкі ішлі непасрэдна ў ВА ЖКГ. Ніна Ганчарык сказала, што выдаткі на ўтрыманне жыллёва-экспуатацыйнай службы павысяцца нязначна.

Тым не менш, жыллёва-эксплуатацыйныя службы па-ранейшаму будуць падначальвацца ВА ЖКГ і гарвыканкаму. Чакаецца, што гэтае новаўвядзенне прымусіць супрацоўнікаў ЖЭСаў больш шчыльна кантактаваць з насельніцтвам.

Начальнік слонімскага ЖЭС № 1 Аляксей Сухарукаў упэўнены, што "новаўвядзенне не павінна паўплываць на павышэнне цэн на камунальныя паслугі". "Будзем працаваць, як працавалі", — сказаў ён.

**Сяргей ЁРШ**

***

**По состоянию на начало февраля лишь 5 процентов денежного оборота Беларуси заменено купюрами нового образца.**

Такие данные сообщил журналистам председатель правления Национального банка Петр Прокопович.

**БелаПАН**

***

**В Беларуси вводится продажа нефтепродуктов населению за валюту.**

1 литр автобензина А-76 с учетом налога будет стоить 30 центов США, АИ-92 — 40, АИ-95 — 45, дизельного топлива — 25 центов.

**БелаПАН**

здарэнні

## Бралі ўсё без разбору

**На мінулым тыдні невядомыя абрабавалі магазін вёскі Чамяры Слонімскага раёна.**

Злачынцы ўкралі тавараў на суму 215 тысяч рублёў. Яны бралі ўсё без разбору: гарэлку, кансервы, цукеркі, ватоўкі, дзіцячае адзенне, гаспадарчыя сумкі і іншую дробязь.

Міліцыя пакуль не выйшла на след злодзеяў.

**Валянцін ЧУРЫЛА**

## Убил себя током

**Случай самоубийства произошел на этой неделе в Кобрине — ученик школы ушел из жизни с помощью электричества.**

17-летний парень обмотал себя электропроводом и подключил его к сети переменного тока.

**БелаПАН**



## Слонімская філія БАЖ зарэгістравана

**У слонімскім гарвыканкаме пастаўлена на ўлік Слонімская філія грамадскага абʼяднання "Беларуская асацыяцыя журналістаў" (БАЖ).**

Сёння гэтае абʼяднанне ў Беларусі налічвае каля 700 журналістаў, якія працуюць у розных сродках масавай інфармацыі свету. Асноўнай мэтай дзейнасці БАЖ зʼяўляецца рэалізацыя грамадзянскіх, эканамічных, сацыяльных, культурных і прафесіянальных правоў і законных інтарэсаў журналістаў, дасягненне магчымасцяў іх творчага самавыяўлення і прафесійнага майстэрства.

Слонімскай філіяй БАЖ кіруе намеснік рэдактара "ГС" Сяргей Чыгрын.

**Наталля ФУРСАВА**

# ХРАМ ПАЦІХУ РУШЫЦЦА

**Увечары, 5 лютага, абрушылася частка збудаванняў слонімскай сінагогі з боку Савецкай вуліцы.**

**(Працяг на стр. 2)**

# ХРАМ ПАЦІХУ РУШЫЦЦА

(Працяг. Пачатак на 1 стр.)

Гэтага можна было даўно чакаць. Пра гэта неаднойчы пісала наша газета (№ 2 за 1997 г., № 16 і 23 за 1998г.). І не толькі журналістаў хваляваў лёс сінагогі, аднаго з самых старажытных помнікаў архітэктуры Слонімшчыны (яна пабудавана ў 1642 годзе). У чэрвені 1998 года ў № 23 "ГС" быў змешчаны ліст групы слонімцаў. Яны пісалі, што сінагога знаходзіцца ў аварыйным стане, у ёй і каля яе пануе антысанітарыя, у будынку храма адкрыта... грамадская прыбіральня. Людзі ўжо тады (!) папярэджвалі: "...у сцяне прыбудоўкі да сінагогі, дзе раней быў бар, "расце" разлом. У непагоду пад гэтым дахам хаваюцца людзі, зусім не падазраючы, што ў любы момант на іх можа абрынуцца смяротны вал цэглы".


Фота Віталя ПІЛЯ
Так выглядалі прыбудовы сінагогі 4 лютага

Пасля той нашай публікацыі з'явіліся рабочыя, якія закалацілі вокны і дзверы. Але гэта не ратавала сінагогу ад разбурэння...


Сінагога, 1912г.

У чэрвені мінулага года інфармацыйнае агенства БелаПАН распаўсюдзіла інфармацыю пра тое, што Іудзейскае рэлігійнае аб'яднанне Беларусі ў кантакце з ЮНЭСКА плануе стварыць у слонімскай сінагозе музей беларускага яўрэйства. Планавалася хуткая рэстаўрацыя помніка архітэктуры. 17 чэрвеня 1999 г. слонімскі гарсавет зацвердзіў "мерапрыемствы па добраўпарадкаванню горада Слоніма да 750-годдзя яго заснавання". Планавалася, што ў 2000 г. павінен быць праведзены "рамонт дахаў на прыбудовах да сінагогі" і выканаўцам работ значыўся Саюз яўрэйскіх абшчын. Так атрымалася, што сінагога ні рамонту, ні рэстаўрацыі не дачакалася і пачала разбурацца.

4 лютага фотакарэспандэнт "ГС" здымаў прыбудовы сінагогі, якія пагражаюча нахіліліся. А на наступны дзень, увечары, частка збудавання абвалілася... На шчасце, абышлося без ахвяр.

Пакуль невядома, ці хто адкажа за тое, што адбылося.

**Сяргей ЁРШ**

наша інтэрв'ю

# КАМПЕНСАЦЫЯ ЎКЛАДАЎ ПРАЦЯГВАЕЦЦА

**Два гады ідзе выплата кампенсацый укладчыкам ААБ "Беларусбанка", грашовыя ўклады якіх у свой час абясцэніліся.**

Пра гэта карэспандэнту "ГС" расказвае дырэктар Слонімскага аддзялення "Беларусбанка" Ніна Аўдзейчык.

***— Ніна Аляксееўна, чаму, напрыклад, мне, як укладчыку вашага банка, не выдаюць кампенсацыю на мой грашовы ўклад?***

— Справа ў тым, што кампенсацыя выдаецца пакуль што пэўнай катэгорыі ўкладчыкаў. Да іх ліку адносяцца асобы, якім на дзень выхаду ў свет закона аб выплаце кампенсацыі споўнілася 65 і больш гадоў, ветэраны вайны, інваліды з дзяцінства, інваліды 1 і 2 групаў (у тым ліку інваліды з дзяцінства 1 і 2 груп), былыя вязні фашысцкіх канцлагераў, а таксама ўкладчыкі нашага банка, якія маюць пэўныя сацыяльныя льготы. Падрабязную інфармацыю па гэтаму пытанню людзі могуць атрымаць у аддзяленні банка. У 1999 годзе выплачана кампенсацыя па ўкладах на суму 59 мільёнаў дэнамінаваных рублёў.

***— Ад чаго залежыць памер налічэнняў па ўкладах?***

— Налічэнне кампенсацыі робіцца на падставе дадзеных аб уліку ўкладаў і каштоўных папер з улікам дэнамінацыі. Налічэнне кампенсацыі па тэрміновых укладах і ўкладах да запатрабавання істотна адрозніваюцца. Па тэрміновых укладах разлік сум кампенсацыі робіцца на падставе рэшты ўкладу па стану на 1 студзеня 1992 года з улікам дэнамінацыі. А разлік кампенсацыі па ўкладах да запатрабавання — на падставе сярэднегадавой рэшты ўкладу за перыяд з 1992 па 1994 год. Сярэднегадавы астатак укладу вызначаецца як адносіны сумы гадавога даходу па ўкладу да памеру гадавога прырысту ў адпаведным годзе...

***— Напэўна гэта цяжка засвоіць людзям сталага ўзросту. Скажам прасцей: чалавек карыстаўся сваімі грашыма. Ён іх то браў, то папаўняў уклад. На той час, калі "замарозілі" уклады, сума была вялікая. Як у дадзеным выпадку будзе налічвацца памер кампенсацыі?***

— Усё залежыць ад працэнта, які быў налічаны да рэшты ўкладу. Калі, напрыклад, уклад быў тры тысячы рублёў, але працэнт за год склаў 40 рублёў, то гэтая сума з улікам дэнамінацыі, раздзеленая на сярэднегадавы працэнт і бярэцца для вылічэння кампенсацыі.

***— Грошы налічылі. Ці можа чалавек іх атрымаць? Ці абавязкова ўкладчык павінен звяртацца ў банк па налічэнне кампенсацыі?***

— Усе грамадзяне, якія на сённяшні дзень маюць права на атрыманне кампенсацыі па свайму ўкладу, павінны абавязкова звярнуцца ў аддзяленне "Беларусбанка" з адпаведнай заявай. Не абавязкова звяртацца ў тое аддзяленне, дзе быў адкрыты рахунак. Можна наведаць любое бліжэйшае аддзяленне.

***— А як быць тым укладчыкам, якія жывуць у блізкім ці далёкім замежжы?***

— Яны могуць наведаць любое аддзяленне "Беларусбанка" на тэрыторыі рэспублікі і падаць заяву на налічэнне і пакінуць адрас, куды перавесці грошы. У сваю чаргу мы таксама можам запатрабаваць кампенсацыю з любога горада Беларусі.

***— Ніна Аляксееўна, гэтая паслуга платная?***

— Не, усё гэта робіцца бясплатна.

**— Грошы можна атрымаць наяўнымі?**

— На кампенсаваныя ўклады выдаюцца чэкавыя кніжкі, па якіх чалавек можа атрымаць спажывецкія тавары, зрабіць аплату за камунальныя паслугі.

***— У Слоніме ёсць пэўная колькасць укладчыкаў, якія адкрылі рахункі яшчэ ў даваенны перыяд. Ці будзе налічвацца кампенсацыя на такія ўклады?***

— Падобныя ўклады спісаны ў разрад аб'яднаных і ў адпаведнасці з заканадаўствам яны не кампенсуюцца.

**Гутарыў Валянцін ЧУРЫЛА**

# СИРОТЫ
## ПРИ ЖИВЫХ РОДИТЕЛЯХ

Недавно слонимский суд рассмотрел исковое заявление прокуратуры, которая ходатайствует о лишении родительских прав Натальи и Павла Зеновых, жителей деревни Острово Слонимского района.

Семь лет назад они переехали в Острово из Пружанского района. Правление колхоза "Рассвет" выделило им четырехкомнатную квартиру. Супруги были приняты на работу на ферму. Их пятеро детей определили в школу и в детсад. Казалось бы, работай, живи, воспитывай детей. Однако пристрастие Зеновых к спиртному деградировало их как родителей. Частые недельные запои не только поглощали весь семейный доход, но и не оставляли время на маломальский уход за детьми. Неоднократно их образ жизни обсуждался на заседании правления колхоза, исполкоме сельсовета и различных комиссий. Напрасно. 40-летние супруги продолжали пить. Трое дочерей и двое сыновей Зеновых ходили в школу голодными и неухоженными. Все их суточное питание состояло из обеда в школьной столовой.

Закончилось тем, что в 1995 году суд лишил Зеновых родительских прав. Все пятеро детишек были определены в государственные учреждения. В сентябре 1996 года у Зеновых рождается шестой ребенок — сын Павел. К сожалению, и ему было уготовано нерадостное детство. Мальчик только в детском саду был накормлен и ухожен, а в выходные его ждал голодный паёк. В пьяном угаре родители забывали забирать Павлика из садика. Его домой приводили соседи. С их слов, квартиру Зеновых с трудом можно назвать жилым помещением. Всюду грязь. Из мебели в доме имеется только кухонный стол и несколько табуреток. Из четырех жилых комнат электрическая лампочка горела только на кухне. Приусадебный участок зарос сорняками. Собранный осенью картофель они обычно продавали, а деньги пускали на спиртное.

Чтобы чем-то питаться, Наталья Зенова стала ночью наведываться в кладовки и подвалы односельчан. За кражу продуктов у соседей в октябре 1999 года Наталья была осуждена на три года лишения свободы. После чего жизнь 4-летнего Павлика была буквально в опасности. Поэтому районный отдел образования определил его в круглосуточную группу городского детсада №1. Решением суда Зеновы были лишены родительских прав на сына Павла.

В суд пришло извещение из Гомельской женской колонии, где отбывает наказание Зенова, в котором говорится, что она "хладнокровно восприняла известие о лишении ее родительских прав на шестого ребенка — Павла — и никаких ходатайств и претензий по этому поводу не имеет".

**Валентин ЧУРИЛО**

НОВОСТИ

## Таможня не дремлет

**В минувшем году сотрудники Брестской таможни изъяли товара стоимостью более 1 триллиона неденоминированных рублей.**

Таможенная статистика свидетельствует, что чаще всего предметом контрабанды становилась иностранная валюта: в минувшем году было изъято 1 миллион 289 тысяч 541 доллар США, 557 тысяч 605 немецких марок, 289 тысяч 398 российских рублей. Сотрудниками таможни были также изъяты свыше 230 тысяч литров алкогольных напитков, свыше одного миллиона штук сигарет.

**БелаПАН**

## Добьются ли своих требований предприниматели

**В правительстве страны подготовлен проект декрета главы белорусского государства "О некоторых вопросах взимания налога на добавленную стоимость с индивидуальных предпринимателей".**

По информации, переданной в официальные СМИ руководителем ГНК Николаем Демчуком, проект предусматривает установление определенного минимального уровня при взимании налога на добавленную стоимость (НДС). Напомним, что 1 февраля во многих городах Беларуси, в том числе и в Слониме, началась забастовка частных предпринимателей, торгующих на рынках. Предприниматели требуют освобождения от уплаты налога на добавленную стоимость, если товарооборот не превышает трех тысяч минимальных зарплат в месяц. В Государственном налоговом комитете полагают: будущий декрет главы государства устранит причины забастовки частных предпринимателей. Однако следует отметить, что льготы по выплате НДС являются лишь одним из требований представителей малого бизнеса.

Кроме того, как предупредил руководитель Министерства предпринимательства и инвестиций А. Сазонов, выступая на коллегии ведомства, проект декрета не будет подписан до завершения предпринимателями забастовки.

Стоит также отметить, что в результате забастовки слонимских предпринимателей местная городская казна недополучит около 4,5 млн.руб., а это сумма заработной платы примерно 250 бюджетников.

**Наталья ФУРСОВА**

Газета Слонімская
Рэг. нумар 947 ад 24.03.97г.
Заснавальнік і рэдактар Віктар ВАЛАДАШЧУК

Адрас рэдакцыі: 231800, г.Слонім, вул. Я.Купалы, 5.
Тэлефоны:
рэдакцыі............ 2-14-39
.............(017) 210-87-17
аддзел рэкламы 2-49-39

Аўтары апублікаваных матэрыялаў нясуць асабістую адказнасць за падбор і дакладнасць фактаў, іх меркаванні могуць не супадаць з поглядам рэдакцыі.

Рэдакцыя не вядзе перапіску з чытачамі і пакідае за сабою права рукапісы не рэцэнзаваць і не вяртаць.
Газета друкуецца на беларускай і рускай мовах.

Падпісана да друку 8 лютага 2000г.
Час падпісання 16:00.
Надрукавана ў Слонімскай узбуйненай друкарні, г. Слонім, вул. Хлюпіна, 16.

Падпісныя індэксы:
64042 (індывідуальная)
63818 (ведамасная)
Наклад 8500 экз.
Заказ № 520

E-MAIL:gs@irex.minsk.by HTTP://gs.promedia.minsk.by

## КУДЫ ЗНІКЛІ СКУЛЬПТУРЫ З КАСЦЁЛА
# СВЯТОГА АНДРЭЯ?

**Гэтая гісторыя здарылася ў пачатку 1980-х гадоў. З нішаў на фасадзе слонімскага касцёла Св. Андрэя, які ў той час быў занядбаны і не дзейнічаў, зніклі дзве драўляныя скульптуры святых Пятра і Паўла...**

Валянцін Чурыла, у той час намеснік начальніка слонімскай міліцыі, прыпамінае, што адразу пасля здарэння з групай аператыўнікаў выязджаў да касцёла. Жыхары бліжэйшых дамоў казалі, што скульптуры ўкралі літоўцы — бачылі літоўскія нумары на машынах. Яны падагналі да храма аўтакран і знялі іх... Пошукі не далі станоўчых вынікаў. Ды і сам тагачасны 1-ы сакратар гаркама кампартыі Казімір Іванавіч Лушнеўскі казаў: "На што іх шукаць? Усё роўна касцёл пойдзе пад знос". А яшчэ перад тым ён жа гаварыў на сходзе партыйнага актыву ў Слоніме: "На аднаўленне касцёла патрабуецца каля 2 мільёнаў рублёў (тагачасных). Таму рэстаўрыравацца касцёл не будзе". У той час столькі грошай хапіла б для пабудовы сучаснай школы...

*Так выглядаў касцёл Св.Андрэя ў пачатку 1980-х гадоў*

Здавалася, што след знікнуўшых скульптур будзе згублены назаўсёды, аднак... Вядомы беларускі мастацтвазнаўца Аляксей Хадыка ўпэўнены, што скульптуры знаходзяцца ў Літве. Ён спасылаецца на расказ вядучага спецыяліста па гісторыі мастацтва Літвы Ірэны Вашвелайтэ. Яна сцвярджае, што скралі дзве драўляныя скульптуры з слонімскага касцёла літоўцы. Калі знімалі, то казалі людзям, што забіраюць іх у музей. А стаяў касцёл тады закінуты і зусім натуральна выглядала, што іх ратуюць. Па словах Вашвелайтэ, скульптуры знаходзіліся ў музеі гісторыі рэлігіі і атэізму ў Вільні, які месціўся ў адным з касцёлаў. Пасля аднаўлення незалежнасці Літвы, напэўна, гэты музей быў ліквідаваны. Дзе ж яны могуць знаходзіцца цяпер? Па адной з версій — у музеі гісторыі і этнаграфіі Літвы, па іншай — у адным з касцёлаў.

Айцец Вітольд Жэльветра, настаяцель касцёла Св. Андрэя, у размове з карэспандэнтам "ГС" пацвердзіў, што скульптуры былі старажытнымі і зусім магчыма, што знаходзіліся ў нішах касцёла ад часу яго пабудовы. А быў ён пабудаваны ў 1775 г. у стылі позняга барока. Зусім магчыма, што скульптур калісьці было больш, бо ёсць і іншыя пустыя нішы.

Аказваецца, не толькі ў Слоніме дзейнічалі літоўцы. Айцец Вітольд згадаў, як у 1980-я гады яны правялі падобную "аперацыю" у Гальшанах. Што да звестак пра знаходжанне слонімскіх скульптур у Літве, дык айцец Вітольд лічыць, што трэба асцерагацца копій, якія могуць існаваць. А калі ўдасца знайсці арыгіналы, дык зусім магчыма дабіцца іх вяртання ў Слонім.

Літоўцы безумоўна не мелі ніякага законнага права забіраць гэтыя скульптуры. Аднак касцёл тады быў у жахлівым стане, і гэтая сітуацыя можа выглядаць, як выратаванне ад знішчэння. Цяпер, калі скульптуры ўдасца адшукаць і сённяшнія ўладальнікі згодзяцца іх вярнуць, то мы скажам ім вялікі дзякуй за перазахоўванне.

А пакуль у двух нішах на фасадзе касцёла Св. Андрэя стаяць дзве копіі скульптур святых Пятра і Паўла, зробленыя не ў натуральную велічыню...

**Сяргей ЁРШ**

праблема

# ПАЖАР МОЖНА ПАПЯРЭДЗІЦЬ

**Летась на тэрыторыі Слонімскага раёна зарэгістравана 84 пажары, што на 13 пажараў больш, чым у 1998 годзе.**

Страты ў выніку пажараў склалі 4094424 тысяч рублёў. Пашкоджаны 54 дамы вяскоўцаў. У агні загінулі 6 чалавек. Пра гэта на пасяджэнні раённай аглядавай камісіі паведаміў інспектар пажарнага нагляду Мікалай Кудра.

Камісія падсумавала вынікі працы пазаштатных пажарных фарміраванняў і сельскіх аглядавых камісій за 1999 год. Аналіз вынікаў агляду-конкурсу па праверцы супрацьпажарнага стану дамоў сялян і ўзроўню іх навучання правілам пажарнай бяспекі паказаў, што станоўчых вынікаў у гэтай справе дасягнулі аглядавыя камісіі Новадзевяткавіцкага, Жыровіцкага і Сялявіцкага сельсаветаў. Напрыклад, на тэрыторыі Сялявіцкага сельсавета на працягу мінулага года не здарылася ніводнага пажару, а ў Жыровіцкім і Новадзевяткавіцкім сельсаветах зарэгістравана па два выпадкі пажару.

Зусім іншы стан супрацьпажарнай бяспекі зафіксаваны ў Дзеравянчыцкім, Міжэвіцкім, Вялікашылавіцкім, Дзераўноўскім і Васілевіцкім сельсаветах. Па словах Мікалая Кудры, сельскія аглядавыя камісіі праверылі 6390 дамоў. У 1354 з іх аказаліся няспраўнымі печы, а ў 1382 сядзібах выяўлены грубыя парушэнні пры эксплуатацыі электраправодкі і электраабсталявання. На ўлік былі ўзяты 2315 адзінокіх састарэлых і 1260 інвалідаў. Для ўдзелу ў аглядзе-конкурсе за ўзорны стан супрацьпажарнай бяспекі былі прадстаўлены сем населеных пунктаў раёна: вёскі Паўлава, Сурынка, Васілевічы, Якімавічы, Масілавічы, Сянькоўшчына і Жыровічы. Аднак камісія аддала перавагу вёсцы Масілавічы Новадзевяткавіцкага сельсавета, дзе з 75 сядзіб 49 адпавядаюць патрабаванням супрацьпажарных правіл.

Па выніках агляду супрацьпажарнага стану дамоў і узроўню навучання сялян правілам пажарнай бяспекі на тэрыторыі раёна першае месца прысуджана аглядавай камісіі Новадзевяткавіцкага сельсавета (старшыня камісіі А.Блізнюк). Другое месца заняла аглядавая камісія Жыровіцкага сельсавета (старшыня камісіі Я.Шуляк), трэцяе — пазаштатнае пажарнае фарміраванне Сялявіцкага сельсавета (старшыня камісіі А.Міхно).

Акрамя гэтага за высокі супрацьпажарны стан вёскі Масілавічы райвыканкам уручыў Новадзевяткавіцкаму сельсавету прэмію ў памеры 50 мінімальных заробкаў для прэміравання гаспадароў лепшых сядзіб і фінансавання мерапрыемстваў па далейшаму павышэнню супрацьпажарнай бяспекі іншых населеных пунктаў сельсавета.

**Валянцін ЧУРЫЛА**

НАВІНЫ

### Непатрэбная прадукцыя

**Усе прадпрыемствы Мастоўшчыны, акрамя СП "Самана плюс", у мінулым годзе дапусцілі зніжэнне аб'ёму экспарту прадукцыі.**

Нягледзячы на тое, што тэмпы росту прамысловай вытворчасці склалі 105%, значная частка прадукцыі застаецца нерэалізаванай. Па гэтай прычыне ў даход бюджэту не паступіла 29 млрд. руб., у тым ліку 15 млрд. руб. у бюджэт раёна.

### Новая крама

**У Мастах адкрылася новая крама "Дубнячачка".**

Яна належыць калгасу "Дубна" і будзе гандляваць, у асноўным, мяснымі прадуктамі. Гэтая гаспадарка мае ўласны каўбасны цэх.

### Бракуе саломы

**Падчас свайго выступлення на сходзе перад мастоўскімі сувязістамі намеснік старшыні мясцовага райвыканкама Аляксандр Гвоздзь прызнаўся, што ў калгасах няма чым карміць скаціну, бракуе нават саломы.**

Асабліва ў цяжкіх умовах праходзіць зімоўка ў калгасах "Зара", "Чырвоны партызан", "Чырвоная зорка". Частку жывёлы з гэтых гаспадарак перадалі ў калгасы "Шчара" і імя Карбышава. Тым не менш, раён працягвае аддаваць свае кармы ў Віцебскую вобласць.

### У Мастах падтрымалі страйк

**Мастоўскія прадпрымальнікі падтрымалі агульнарэспубліканскі страйк. Усе як адзін напісалі заявы на водпуск.**

Па словах аднаго з супрацоўнікаў райвыканкама, мясцовыя ўлады занепакоены адсутнасцю паступленняў у бюджэт і, як следства, наглядаецца затрымка выплаты пенсій і заработнай платы бюджэтнікам.

**Язэп ПАЛУБЯТКА**

### Творчая сустрэча

**У Правамастоўскай сярэдняй школе прайшоў тыдзень беларускай мовы.**

Яго завяршэннем стала сустрэча вучняў з мясцовымі паэтамі і пісьменнікамі. Пра гістарычнае мінулае Мастоўшчыны распавядаў намеснік рэдактара раённай газеты "Зара над Нёманам" Аляксей Сабасцян. Свае творы прачыталі паэтэса Аліна Тарарук і празаік Язэп Палубятка.

### Бяда "Дзяцей у бядзе"

**Раённая дабрачынная арганізацыя "Дзеці ў бядзе", што дапамагала хворым на сэрца дзеткам, не прайшла перарэгістрацыю.**

Тым самым паўстала пытанне аб яе існаванні.

**Антон МАКЕЙ**

ДАРОЖНАЯ ГІСТОРЫЯ

# ДОБРА, ШТО ДОБРА КАНЧАЕЦЦА

**Нядаўна ў рэдакцыю "ГС" завітаў жыхар Дзятлаўскага раёна Міхаіл Марцінчык, які працуе ў калгасе "Слава працы" рабочым цэха кансерваў.**

Гісторыя, якую расказаў Міхаіл Іванавіч, можа здарыцца з кожным, хто садзіцца за руль уласнага (ці чужога) аўтамабіля. Але дамо слова яму самому.

— 25 лістапада мінулага года я даў свой "Масквіч" знаёмаму пад'ехаць з Казлоўшчыны на працу ў вёску Паўлава. Не даязджаючы мяжы Дзятлаўскага і Слонімскага раёнаў, ён трапіў у аварыю — сутыкнуўся з мікрааўтобусам грамадзяніна Літвы, які нечакана выехаў на трасу з бакавой дарогі, не прапусціўшы "Масквіч", чым груба парушыў правілы дарожнага руху.

З людзей ніхто не пацярпеў, хоць мой аўтамабіль пасля сутыкнення ніякаму рамонту ўжо не падлягаў.

Я непасрэдна прысутнічаў на месцы здарэння пры высвятленні ўсіх акалічнасцей справы. Майго знаёмага аштрафавалі за кіраванне аўтамабілем без даверанасці, а літоўца прызналі вінаватым у дарожна-транспартным здарэнні. "Масквіч" быў застрахаваны па абавязковаму страхаванню ў Дзяржстраху, таму я павінен быў атрымаць страхоўку. Яшчэ на месцы здарэння інспектар з Дзятлаўскай ДАІ адарваў са страхавога полюса літоўца талончык і перадаў яго мне. З гэтым талончыкам і з даведкай аўтаінспекцыі аб аварыі я праз некалькі дзён накіраваўся ў Дзятлаўскае аддзяленне Дзяржстраху. Там паглядзелі мае паперы і сказалі, што я звярнуўся не па адрасу, бо грошы за мой разбіты аўтамабіль мне павінен выплаціць "Белзамдзяржстрах" — страхавая фірма, у якой застрахаваны мікрааўтобус літоўца, вінаватага ў дарожна-транспартным здарэнні. Тут жа параілі звязацца з гэтай фірмай у Мінску па тэлефоне, каб удакладніць, якія дакументы неабходна мець для атрымання грошай па страхоўцы. Званю ў Мінск, расказваю сутнасць справы. Там мяне выслухалі і пераадрасавалі свайму філіялу ў Гродне: назвалі адрас і нумар тэлефона. Звязваюся з Гроднам, зноў выкладаю сутнасць справы.

Прадстаўнік фірмы, Сцяпан Іванавіч, сказаў мне, што страхоўку я атрымаю, патрэбна толькі сабраць неабходныя дакументы і самому знайсці ацэншчыка, які падлічыць суму маёй страты ў выніку аварыі, бо свайго спецыяліста з фірмы яны прыслаць не могуць — далёка. Пачаў я шукаць ацэншчыка і збіраць неабходныя дакументы. Сцяпан Іванавіч падказаў мне тэлефоны ацэншчыкаў у Лідзе, Слоніме і Навагрудку. Лідскі спецыяліст адказаўся адразу, у Слоніме параілі звярнуцца ў Навагрудак, бо там, маўляў, даражэй ацэньваюць рамонтныя работы. Навагрудскі ацэншчык згадзіўся аказаць свае паслугі пры ўмове, што я прывязу і завязу яго назад, і прызначыў мне сустрэчу ажно на 8-га снежня. Так і зрабілі. Акрамя дарогі, за яго паслугі я заплаціў 18 мільёнаў недэнамінаваных рублёў. Ён сказаў пазваніць яму праз тыдзень. Столькі часу яму патрэбна было, каб скласці акт і вынесці дакументальнае заключэнне ацэнкі. Але на самай справе паперы былі падрыхтаваны толькі праз два тыдні, і забраў я іх з Навагрудка 23-га снежня. Ацаніў ён мае страты ў 320 мільёнаў. У той жа дзень патэлефанаваў у Гродна. Там мне сказалі, каб прывёз усе неабходныя дакументы, што я праз некалькі дзён і зрабіў. У Гродне ўсё праверылі і афармілі за мінут 30-40. Той самы Сцяпан Іванавіч даў мне на рукі бланк запыту аб аварыі ў Дзятлаўскую ДАІ і параіў самому пераканацца, што яго там зарэгіструюць, афармяць і адправяць у Гродна, бо толькі калі Белзамдзяржстрах атрымае ад даішнікаў гэту паперу — я атрымаю свае грошы.

А тут якраз Новы год набліжаецца. Час, як кажуць, — грошы.

У Дзятлаве аддаў гэты запыт інспектару ДАІ Ігнаціку, які займаецца такімі справамі. Ён паабяцаў, што сёння ж адашле адказ у Гродна. Гэта было 28 снежня. Праз тыдзень, ужо пасля Новага года, пазваніў у Гродна — не атрымалі, сказалі мне там, адказу з Дзятлава. Пазваніў у Дзятлава. Інспектар сказаў, што адправіў дакумент у Гродна. Што ж, думаю, былі святы, пошта так працуе, што можа і не дайшоў яшчэ канверт з ДАІ да абласнога цэнтра. Пачакаў я яшчэ тыдзень і зноў пазваніў у гродзенскую фірму. Не, няма, кажуць, ніякага адказу з Дзятлава і раяць мне зноў ехаць у Дзятлаўскае ДАІ і патрабаваць, каб там паказалі запіс аб рэгістрацыі адпраўленага дакумента. На месцы высвятлілася, што інспектар напісаў адказ толькі 6-га студзеня, але ў джяржаўтаінспекцыі на той час не было канвертаў (!), каб адправіць паперы па назначэнню. Купіў я канверт, жанчына з ДАІ зарэгістравала яго, запячатала, я сам аднёс на пошту і адправіў заказным пісьмом. Праз тыдзень, 20 студзеня, паехаў у Гродна і атрымаў тыя 320 мільёнаў недэнамінаваных рублёў за разбіты "Масквіч" і 18 мільёнаў, якія я заплаціў ацэншчыку...

Такая вось гісторыя. Кажуць, добра тое, што добра канчаецца. Міхаіл Марцінчык аказаўся чалавекам настойлівым і атрымаў грошы па страхоўцы, літаральна перамогшы бюракратычны апарат страхавых кампаній і ДАІ. Гэта гісторыя можа быць у пэўным сэнсе павучальнай для ўладальнікаў аўтамабіляў.

**Мікола КАНАНОВІЧ**

рэпартаж

# АПОШНІ ПРЫТУЛАК

Невялікі цагляны дом акружаюць пасівелыя ад інею бярозы. Мяккі пушысты снег бялюткай посцілкай засцілае вялікі двор. І хоць у доме жывуць дзесяць чалавек, снег наўкола не прытаптаны. Толькі да ўвахода ў будынак вядзе вузкая сцяжынка. Гэта сведчыць, што насельнікі не выходзяць за парог. І калі жыхары вёскі Руда-Яварская, што ў Дзятлаўскім раёне, праходзяць ля гэтага будынку, сэрца сціскаецца ад шчымлівага болю і тугі. Раней там была ўчастковая бальніца, а цяпер у гэтых сценах каратаюць старасць адзінокія нямоглыя людзі, у якіх ва ўсім белым свеце, лічы, няма ніводнай роднай душы. Казённы дом стаў апошнім прытулкам у іхнім нялёгкім жыцці.

— У нас месцы бываюць вольнымі толькі ў адным выпадку: калі хто-небудзь памрэ, — кажа ўрач Ядвіга Францаўна Шышко.

Некалькі дзесяцігоддзяў працуе яна ў мясцовай амбулаторыі, прымаючы хворых з Руды-Яварскай і навакольных населеных пунктаў. Яна ж лечыць і тых, хто ляжыць на так званых сацыяльных ложках.

Доктар, повар, чатыры медыцынскія сястры і чатыры санітаркі ды адзін шафёр — вось і ўвесь абслугоўваючы персанал. У распараджэнні бальнічкі ёсць машына. З дзвюх спісаных сабралі адну і паставілі на колы. Ездзіць. Доктар спяшаецца на ёй па выкліках у аддаленыя лясныя вёскі. У выпадку крайняй неабходнасці на ёй прывозяць цяжка хворых у Дзятлаўскую раённую бальніцу.

Калі з двара зойдзеш у памяшканне, адразу адчуваеш пах лекаў і, так бы мовіць, адзінокай нямоглай старасці. Насельнікі бальнічкі пакінулі ў сваіх вёсках старыя хаткі, увесь небагаты скарб і прыйшлі сюды, узяўшы толькі самае неабходнае. Прыйшлі дажываць свой гаротны век. Каб не гэтыя сацыяльныя ложкі, яны ўжо, можа, і не жылі б на свеце, бо не маюць сіл для таго, каб прынесці ў хату вядро вады, бярэмя дроў, купіць у магізіне хлеба. А тут, як бы ні было, усе дагледжаны і накормлены, маюць цёплае памяшканне.

Глядзіш на бабулек, і ствараецца такое ўражанне, нібы іней пасерабрыў не толькі бярозы за акном, але і іхнія галовы. З-пад хусцінак выбіваюцца пасмачкі сівых валасоў. Твары ў кабет хоць і не худыя, але без крывінкі. Па-першае, людзі нездаровыя, а па-другое, зімой рэдка каторая здолее выйсці на якую хвілінку і пастаяць на ганку: даймае холад, а хадзіць па надворку няма сіл.

Многія насельнікі гэтага казённага дома жывуць тут па шмат гадоў. У кутку ля акна стаіць ложак невялічкай кволай бабулькі, якая правяла ў бальніцы дзесяць гадоў свайго жыцця. Некалі яна трапіла пад цягнік, пакалечылася: моцна пашкодзіла левую руку і нагу. З носа часта зрываецца кроў. Пяць гадоў няшчасная кабета не хадзіла зусім. Персанал бальніцы даглядаў яе, як малое дзіця: кармілі, пераапраналі, мылі. Цяпер бабулька мае сілы падняцца са свайго ложка і прайсціся па палаце. Гэта яна лічыць найвялікшым шчасцем на свеце.

На ложку ля дзвярэй маўкліва ляжыць мажная жанчына. Яна перанесла інсульт і цяпер не размаўляе, не ўстае. Яе трэба варочаць, карміць, мыць.

Адна бабулька прыехала сюды з вёскі Дубраўка. Ёй неўзабаве споўніцца семдзесят гадоў. Мае дрэнны зрок, перанесла некалькі аперацый. Яна можа яшчэ і жыла б у сваёй хацінцы, але хацінка тая развалілася ад старасці, а адрамантаваць яе няма ні грошай, ні сіл. Так і апынулася ў казённым доме. Прывыкла тут, бо і накормлена, і ў цяпле.

На адным з ложкаў мучыцца ад болю старэнькая бабулька. Трапіла сюды з пераломам бядра, бо дома няма каму даглядаць. Муж памёр, а потым не стала адзінага сына. Яна пакутуе не толькі ад бальнічнага жыцця, але і ад таго, што заўчасна страціла сваю адзіную ўцеху і надзею — свайго сыночка, пры якім мелася дажываць век.

Што ні чалавек — то свой невыносны боль, свая пакута. Яны ўжо не жывуць, а дажываюць у адзіноце, без ласкі родных людзей.

— У некаторых жа, напэўна, ёсць пляменнікі, браты і сёстры, іншыя сваякі. Ці быў выпадак, каб каго забралі з казённага дома? — пытаю ў доктара Ядвігі Шышко.

— Што вы? — здзіўляецца яна. Такога ні разу не было. Усе гэтыя людзі ўжо назаўсёды нашы.

Ядвіга Францаўна не скардзілася, але я ведаю, як іншы раз бывае цяжка з людзьмі, што насяляюць бальнічку. Хранічныя хваробы, старасць, адзінота не робяць іх лагоднымі і спакойнымі. Медыцынскаму персаналу даводзіцца выслухоўваць і папрокі, і кпіны. Але людзі, што працуюць тут, не крыўдзяцца. Яны з вялікай дабрынёй і спагадай адносяцца да кожнага чалавека, як могуць, саграваюць іх адзінокую старасць. Працуюць дружна: санітаркі пастаянна дапамагаюць повару, повар — санітаркам.

У памяшканні бальнічкі цёпла, чыста, утульна. Ёсць ванна, іншыя зручнасці. У мінулым годзе там зрабілі рамонт.

— За сацыяльныя ложкі трэба плаціць? — пацікавілася ў Ядвігі Францаўны.

— Так, нашы пацыенты аддаюць за іх 90% сваёй пенсіі. Але пенсіі, як правіла, зусім маленькія, і за гэтыя грошы ім вельмі цяжка было б пражыць дома, каб нават і мелі сілу самі сябе даглядаць. Паглядзіце, колькі цяпер каштуе газ, электраэнергія. А тут — на ўсім гатовым.

З доктарам нельга не пагадзіцца. І ўсё ж не дай Бог нікому на старасці гадоў знайсці прытулак у казённым доме. Хоць ён і размешчаны ў маляўнічым кутку прыроды, хоць там і кормяць, і даглядаюць, і лечаць не горш, чым у якой-небудзь іншай бальніцы — кожнаму чалавеку хочацца правесці астатак дзён у сям'і, у акружэнні дзяцей і ўнукаў. Памерці на сваёй пасцелі. Хочацца... А як будзе, не ведае ніхто. Можа таму да пацыентаў бальнічкі такое шчырае спачуванне з боку ўсіх, хто мае да іх дачыненне.

**Леанарда ЮРГІЛЕВІЧ**

на жыццёвых скрыжаваннях



# ДВОЕ на хутары

Малюнак Яўгена ІВАНОВА

Памяшканне аўтастанцыі даўно апусцела. Рэдкія аўтобусы, што мала хадзілі з-за недахопу бензіну, адправіліся. Не было пасажыраў. Касірка Зіна зачыніла касу і таксама накіравалася дадому. Толькі прыбіральшчыца Ганна Аўсяная ўсё нешта корпалася ў зале для пасажыраў. Яна працерла вокны, памыла падлогу і, бразгаючы вядром, накіравалася наводзіць парадак у невялічкае бакавое памяшканне, якое нібы служыла дадаткам да залы. Святло там запальвалі рэдка, і цяпер, уключыўшы яго, Ганна са здзіўленнем убачыла, што на лаўцы, згарнуўшыся ў клубочак, спіць невялічкі хлопчык. Коратка астрыжаная галава нічым не прыкрыта, а ў зале было халаднавата. Ці то ад грукату вядра, ці ад яркага святла электрычнай лямпачкі хлопчык заміргаў вачанятамі, потым падхапіўся і сеў. У душы бабы Ганны, якая вызначалася суровасцю і нелюдзімасцю, нечакана варухнулася пяшчота і шкадаванне. Пасля смерці бацькоў яна шмат гадоў жыла адна ў невялічкай хацінцы на хутары непадалёку ад райцэнтра і ўжо даўно не адчувала жаласці ні да кога, як не адчувала яе з боку людзей да сябе. Яна амаль ніколі ні з кім не размаўляла, толькі панура і цярпліва рабіла сваю простую работу: прыбірала памяшканне, мыла і чысціла аўтобусы.

— Цябе пакінулі ці згубілі? — спытала яна ў хлопчыка.

— Неа-а, — замахаў ён стрыжанай галоўкай.

— Тады што? — не адставала баба Ганна.

— Я ўцёк са школы-інтэрната, дзе жыў. Туды мяне накіравалі, забраўшы ад хворай бабулі. Таткі ў мяне не было ніколі, а мамка сядзіць у турме, бо п'яная абакрала нейкага дзядзьку. Ды яна і кінула мяне. Паперу напісала, што кідае. Я гадаваўся ў бабулі, а яна цяжка захварэла. Ёй самой патрэбен догляд. Мяне і запёрлі ў гэты інтэрнат. А праз некалькі дзён прыехаў з нашай вёскі дзед — нейкі далёкі сваяк — і сказаў, што бабуля памерла. Звазіў на пахаванне і назад прывёз. А я не хачу быць у тым інтэрнаце, хачу жыць сам, адзін. Ужо даўно дома быў бы, а тут аўтобус не пайшоў. Я чакаў другога ды заснуў.

— Які табе дом, дурачок, якое жыццё аднаму? — са скрухай прамовіла Ганна. — Зіма на носе, а ў вас, мабыць, і печ паліць няма чым, раз бабка хварэла. А есці што ты будзеш? Так што назад табе, галубок, дарогі няма.

— І ў інтэрнат я не вярнуся, — з недзіцячай цвёрдасцю ў голасе сказаў хлопчык.

І раптам у засохшай, заскарузлай душы Ганны Аўсянай з'явілася нешта падобнае на мацярынскую ласку. Ад гэтага невядомага пачуцця пацяплелі яе вочы, дабрыня засвяцілася ў кожнай маршчынцы старога твару. У лёсе хлопчыка яна адчула нешта падобнае на тое, што было ў яе жыцці.

— Нябось есці хочаш? — пацікавілася.

— Хачу, — шчыра прызнаўся хлопчык. — Я збег адтуль перад самай вячэрай.

На сваіх змучаных рэўматызмам нагах Ганна патупала ў закуток, дзе ляжаў яе плюшавік і стаяла нечым напакаваная сумка. Адламала ад свежага бохана хлеба добры кавалак, адкруціла ад кружка таннай каўбасы і падала хлопчыку.

— Мне зашмат, — запратэставаў ён.

— Як не з'ясі, то ў сумцы ёсць цэлафанавы мяшэчак. Пакладзеш у яго.

Яна шоргала мокрай анучай па падлозе, а ў галаве панура варушыліся думкі:

— Адзінокая душа. Век не будзе мець да каго галаву прыхіліць. І раптам бліскавіцай пранеслася: вазьму яго да сябе! Кіну к чортавай мацяры гэту работу ды буду даглядаць. Хопіць і пенсіі на самае неабходнае. Тым больш, што гаспадарка такая-сякая ёсць. Ды і не малое ж ужо дзіця. Не агледзішся, як вырасце, можа маю старасць сагрэе. Баба Ганна неяк і не падумала, што хлопчыка ж будуць шукаць і абавязкова знойдуць, што калі ён і згодзіцца жыць у яе, то яго ж у кішэні насіць не будзеш. Людзі даведаюцца і паведамяць уладам.

Памыўшы падлогу, яна прыбрала ў закуток свой няхітры інвентар, спаласнула рукі і вымавіла на адным дыханні:

— Пайшлі жыць да мяне. Я табе замяню бабулю і ні ў які інтэрнат не аддам.

Баялася, што адмовіцца, не згодзіцца, а ён аж засвяціўся ўвесь.

— Праўда?! — уздыхнуў, нібы якую хваробу з сябе скінуў.

— То няўжо ж я буду цябе падманваць? — упершыню за многія гады па твары Ганны Аўсянай прабегла нешта падобнае на ўсмешку.

Назаўтра старая звольнілася з працы, і яны з малым Юркам сіднем сядзелі на хутары. Ганна адлучалася з дому толькі ў райцэнтраўскія магазіны па прадукты. Гэта было звычайна раніцай, як пакорміць парсючка ды казу. А потым яны лушчылі фасолю, размотвалі з талькаў ніткі. Словам, жылі — не тужылі. Адтаяла ад адзіноты Ганніна душа, а Юрка не мог нарадавацца, што не трэба вяртацца ў інтэрнат, дзе ненавісны таўстун Генка прыдзіраўся з-за ўсякай драбязы і, не ўзлюбіўшы яго невядома за што, моцна біўся. Пра вучобу ён не думаў, бо ніколі асабліва не цягнуўся да кніжак. Ды і наогул Юрка цяпер ні пра што не думаў. Было добра і ўтульна ў цёплай хаце бабулі Ганны, дзе пахла сушанай мятай і дзе так слаўна мурлыкаў чорны кот, варта было толькі ўзяць яго на калені.

Так міналі дні. Аднойчы вечарам яны паелі і глядзелі тэлевізар. І раптам на экране з'явілася Юркава фотакартачка. Прыгожая жанчына-доктар паведаміла, што прапаў хлопчык і, калі хто ведае, дзе ён знаходзіцца, то няхай паведаміць у міліцыю.

На бабу Ганну нібы хто ўзліў чыгун вару. Яна ўхапілася за край стала і скомкала ў руцэ абрус. Сцяўся, нібы падбітае птушаня і Юрка.

— Што рабіць будзем, дзіцятка? — пабялелымі вуснамі прашаптала баба.

— Маўчаць! — пераканаўча крыкнуў Юрка. — Зноў у інтэрнат? Зноў пад Генкавы кулакі? Ні за што на свеце!

— Падумаем, — коратка сказал Ганна.

Яна думала ўсю ноч. А раніцай, як толькі ў вокны пачало сачыцца скупое восеньскае святло, пабудзіла хлопчыка.

— Трэба ісці ў той інтэрнат. Нельга мне маўчаць. Грэх. Выходзіць, што я цябе ўкрала. Людзі ж там непакояцца, бачыш, міліцыю на ногі паднялі, па тэлебачанню перадалі. Пойдзем, але я цябе ў крыўду не дам.

Яны выйшлі з дому, калі ўжо добра развіднела. І хадзілі доўга, не дзень і не два, з адной установы ў другую, ад аднаго начальніка да другога. Плакалі, пераконвалі, але свайго дамагліся: састарэлай Ганне Аўсянай дазволілі ўсынавіць Юрку Грыўчыка, і ён таксама стаў насіць прозвішча Аўсяны.

**Леанарда ЮРГІЛЕВІЧ**

# ВОЗРОЖДЕНИЕ ЖИРОВИЧСКОЙ СВЯТЫНИ



Фота IREX/ProMedia

Недавно правительство республики утвердило программу под названием: "Возрождение историко-архитектурного комплекса Свято-Успенского монастыря в деревне Жировичи". Корреспондент "ГС" встретился с главным архитектором Слонимского района Евгением Белевичем и попросил его прокомментировать этот проект.

— Инициатором проекта, — сказал Евгений Федорович, — является Митрополит Минский и Слуцкий Филарет. Как известно, Свято-Успенский монастырь является центром православия Беларуси. Это уникальный памятник истории и культуры, и его надо сохранять на многие века. К тому же в его стенах находится Минская духовная семинария.

***— Что планируется сделать на первом этапе?***

— В первую очередь будут проведены научно-исследовательские работы. А во-вторых, планируется перенести в район деревни Прусовщина хозяйственную зону этого уникального памятника архитектуры и зодчества, чтобы не допустить его дальнейшего разрушения.

***— Что, на самом деле имеется угроза разрушения строений и стен монастыря?***

— К сожалению, да. В ходе первоначальных исследований, которые начаты недавно, установлено, что вдоль стен зданий была устроена дренажная система для отвода грунтовых вод, выполненная из лозовых прутьев. Со временем эта система пришла в негодность и возникла реальная угроза разрушения зданий, поскольку все они построены из необожженного кирпича. Установлено, что проходящий у самого входа в Свято-Успенский собор транспорт создавал колебания грунта. В результате чего появились трещины на главном куполе собора, количество и размер которых с каждым годом увеличивалось. Поэтому проезжая часть улицы на 9 метров отнесена от Свято-Успенского собора.

***— А предусмотрено проектом восстановление строений, которых сейчас нет?***

— И да, и нет. Проблема в том, что некоторые архитектурные памятники исчезли и от них не осталось ни чертежей, ни рисунков, тем более, фотографий. Поэтому обращаюсь ко всем слонимчанам с просьбой: у кого по случайности сохранились какие-либо рисунки, гравюры, фотографии Жировичского монастыря, представьте их в районный отдел архитектуры. Возможно они помогут в восстановлении первозданного вида зданий и сооружений монастыря. Может быть у кого-то сохранились редкие исторические документы, касающиеся возникновения и развития деревни Жировичи. Например, известный белорусский историк Анатолий Титов утверждает, что Жировичи когда-то имели статус города, поскольку до наших дней сохранился герб Жирович. Деревни, как известно, своих гербов не имели.

Значимую часть сметных средств придется затратить на строительство водопровода, отопления, канализации, пожарных лестниц и иного оборудования, чего никогда не было в монастыре. Этого сейчас требуют современные условия жизни. При этом будет строго соблюдаться главное требование: не искажать и не видоизменять историко-архитектурного вида строений.

***— Будет ли построена водяная мельница, которая многие годы стояла на монастырском пруду?***

— Проектом такое не предусмотрено, да и в этом, видимо, нет надобности. Ведь в настоящее время и сам пруд видоизменился, поскольку произведена его очистка и благоустройство. Зато будет значительно видоизменена присоборная площадь. Она станет связующей частью архитектурного ансамбля, в который войдут и корпуса аграрно-технического колледжа.

***— Кто будет финансировать проект?***

— Работы по возрождению монастыря будут продолжаться не один год, а поэтому финансирование их предусматривается из различных источников. Но основную часть средств предоставит министерство архитектуры и строительства республики. Для этих целей уже выделено 54 млрд. рублей.

***— Евгений Федорович, кто будет подрядчиком по выполнению этой огромной работы?***

— В нашем районе, к сожалению, ни одна из строительных организаций не имеет достаточных мощностей для выполнения данного объёма работ. Поэтому подрядчиком будет лидский строительный трест.

**Валентин ЧУРИЛО**

---

кніга ў газеце

## Васіль СУПРУН. «Дзеі над Шчарай» *(з гісторыі зямлі Слонімскай)*

Будучы інтэрнацыяналісцкай, КПЗБ толькі пасля II-га з'езда (май 1935) афіцыйна пачала ўлічваць у сваёй дзейнасці і часткова адстойваць нацыянальныя інтарэсы беларускага народа. Барацьба супраць акупацыйнага польскага рэжыму з гэтага часу вялася супольна з беларускімі патрыятычнымі партыямі і рухамі. Гэта значна паўплывала на аўтарытэт камуністаў. Але арышты ў 1937 годзе ўсіх кіраўнікоў КПЗБ, што знаходзіліся ў СССР, ахаладзілі дзейнасць гэтай партыі, якая ў чэрвені 1938 года рашэннем Камінтэрна была распушчана і абвінавачана ў здрадзе інтарэсам камунізму. Абвінавачанні былі зняты толькі на XX з'ездзе КПСС у 50-ыя гады.

Праз польскія катаванні і канцлагер у Бярозе-Картузскай прайшлі сярод іншых і Серафім Татарын, Аляксандр Рыла, Іван Саламевіч, Вера Іскрык, Ганна Кароль, Хаім Хомскі.

У час польскай акупацыі заходнебеларускіх земляў Слонімшчына так і не аднавіла сваю даваенную прамысловасць і значэнне важнага гандлёвага цэнтра краю. Улады баяліся канцэнтрацыі рабочых у гарадах на "усходніх крэсах", дзе і так ішла вострая нацыянальна-вызваленчая барацьба. Таму на ўсіх прамысловых прадпрыемствах Слоніма ў 1933 — 1934 гадах было занята толькі каля 450 рабочых, а ў 1938-ым каля 900 чалавек. У 1933 годзе тут працавалі 6 тартакоў, 12 невялічкіх гарбарняў, 1 мылаварня, 1 фабрыка свечак, 2 аляярні, 4 кафельныя заводзікі, 3 цагельні, 4 бетонныя цэхі, 2 вінаробчыя заводы, 3 прадпрыемствы па выпуску ліманаду і газіраванай вады, 1 трыкатажная фабрыка, 5 млыноў, 1 воўнапрадзільная фабрыка, 2 воўначасальні і 1 кардонна-папяровая фабрыка ў Альбярціне. Насельніцтва горада ў гэты час складала 16282 чалавекі: 64% складала яўрэйскае насельніцтва, 23 % — католікі (палякі і беларусы), 11% — праваслаўныя і 2% — мусульмане і іншыя.

Найбольшае развіццё на тэрыторыі павета атрымала лесапрамысловая галіна. Гэтым промыслам тут займаліся 7 буйных і 25 меншых фірмаў, якія высякалі, збывалі і перапрацоўвалі лясныя запасы гэтага безабароннага краю. Каля 70 % слонімскіх лесаматэрыялаў ішло за межы дзяржавы — у Францыю, Англію, Нямеччыну. Астатнія 30 % рэалізаваліся на мясцовым рынку па высокіх цэнах. На лесанарыхтоўчых работах і на тартаках працавалі ў большасці малазямельныя сяляне, для якіх гэта быў асноўны заробак.

Слонімшчына была сельскагаспадарчым рэгіёнам з нізкарэнтабельнай гаспадаркай, дзе сярэднія надзелы сялян складалі 5-6 гектараў з балотамі і непрыгоднымі нарэзкамі (імхамі, пясчанымі пусткамі). Многія гаспадаркі не мелі сваіх коней — асноўнай цяглавай сілы. Ураджаі зерневых складалі 4-6 цэнтнераў з гектара, а падаткі забіралі амаль палову здабытага за год. Пры несвоечасовай уплаце падаткаў дзяржаўныя секвістратары апісвалі і канфіскоўвалі маёмасць, затым збывалі на аўкцыёнах. Акрамя розных падаткаў, сяляне мусілі кожны год адбываць шарваркі — прымусовыя бясплатныя работы з конмі і пехатой на будаўніцтве і рамонце дарог, мастоў, грэбляў, дзяржаўных і іншых збудаванняў. А дарогі былі пераважна грунтовыя, масты драўляныя. Так званыя шошы (брукаваныя і жвіравыя дарогі) злучалі Слонім з Баранавічамі, Ваўкавыскам, Лідай, Ружанамі, Дзярэчынам. Былі і так званыя тракты-гасцінцы, якія злучалі Слонім з Баранавічамі (Напалеонаўскі або Мінскі тракт), з Косавам (Косаўскі тракт), Быценню і Жыровічамі (Быценскі тракт), Моўчаддзю праз Дзераўную (Моўчадскі тракт). Паштовыя аддзяленні размяшчаліся звычайна пры гмінах, а ў Слоніме іх было 3.



Усе школы з 30-ых гадоў былі толькі польскія, а ў Слоніме — у асноўным, яўрэйскія. У горадзе, напрыклад, існавалі 4 пачатковыя школы, 1 гімназія мужчынская і 1 жаночая (прыватная), настаўніцкая семінарыя, а ў Жыровічах — сельскагаспадарчая і лясная школы. У 1937 — 1939 гадах былі збудаваны шэраг 7-класных школ у сельскай мясцовасці (Глоўсевічы, Азгінавічы, Хмяльніца, Міжэвічы і інш.). У Слоніме ж працавала яўрэйская гімназія, 10 яўрэйскіх пачаткова-сямігадовых школ, 3 дашкольныя ўстановы, спецыяльная школа-вучэльня па вывучэнню Талмуда і адна мусульманская школа. Але затое ў павеце не было ніводнай беларускай школы, была толькі адна грамадская беларуская бібліятэка ў вёсцы Кракотка. У Слоніме ж было 3 бібліятэкі: адна польская і дзве яўрэйскія, існаваў і Народны дом.

На тэрыторыі горада размяшчаліся 2 гарнізонныя вайсковыя палкі — 79-ты і 80-ты, якія ўтрымліваліся тут на ўсякі выпадак. У Слоніме мелася 2 турмы, узмоцненая паліцэйская ўправа з адпаведнымі службамі, староства, камісарыят і камендатура. Пры кожнай гміне меліся паліцэйскія пастарункі.

Горад ужо налічваў 65 вуліц, 32 завулкі, 2 рынкі, 3 плошчы. Большая частка вуліц была забрукавана і асвятлялася электрычнымі ліхтарамі. Працавала свая электрастанцыя, бальніца, амбулаторыя, некалькі прыватных аптэк, інфекцыйная бальніца, гарадская лазня. Дзейнічалі 3 касцёлы, 2 цэрквы, 2 сінагогі і 1 мячэць.

Усё яшчэ вядомай і прыцягальнай не толькі на Беларусі, але і на Украіне, і ў Польшчы заставалася Жыровіцкая праваслаўная святыня, да мурОў якой у вялікія праваслаўныя святы сцякаліся тысячы вернікаў, каб сэрцам і душой дакрануцца да святой іконы Маці Божай Жыровіцкай.

Недзе ў 1938 годзе на рагу школьнага пляца па вуліцы 3-га Мая (сучасная Чырвонаармейская) была ўстаноўлена цудоўная скульптура-помнік Маці Божай з кветкавымі газонамі.

Рака Шчара была суднаходнай. Рэгулярна хадзілі да Гародні пасажырскія судны, грузавыя баржы, сплаўляўся лес.

**(Пачатак у №44,45,47,51 за 98г., №8,11,14,17,19,23,26,28,29,32, 34-37,39-48,50,52 за 99г., №4 за 2000г.)**

